**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№16(680)**
**18 красавіка 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае





Велікодная сустрэча ў Лучаі. Малады паэт Усевалад Сцебурака і ксёндз Мікалай Ліпскі. *Працяг на стар.4.*



## Прырост беларускага ВУП знізіўся з 4,4 да 3,5%

**3,5% склаў прырост беларускага ВУП у студзені–сакавіку 2013 года ў параўнанні з першым кварталам 2012 года, паведамляе Нацыянальны статыстычны камітэт. У студзені 2013 года прырост ВУП быў роўны 3,1% (да студзеня 2012-га), у студзені-лютым — 4,4% (да аналагічнага перыяду мінулага года).**

Выпуск прамысловай прадукцыі ў першым квартале знізіўся на 1,1%, сельскагаспадарчай — павялічыўся на 2,5%.

Інвестыцыі ў асноўны капітал выраслі на 12,5%, увод у эксплуатацыю жылля знізіўся на 4,5%.

Перавозка грузаў (у тонах) скарацілася на 4,2%, грузаабарот (у тона-кіламетрах) — на 5,4%.

Рознічны тавараабарот павялічыўся на 18,7%, аптовы — на 8,8%.

У 2012 годзе прырост ВУП склаў 1,5% пры плане 5—5,5%. План прыросту на 2013 год — 8,5%.

***Дзмітрый Уласаў, БелаПАН.***

**Пастаўскі раён**

# Паўстане новы завод?

■ Кастусь Александровіч

**Сапраўды надзвычайным здарэннем у Пастаўскім раёне стаў моцны выбух днём на Лынтупскім спіртзаводзе, на якім выраблялі адзін з лепшых па якасці ў Беларусі спірт класа люкс.**

Самым жудасным стала ў той дзень тое, што адна з пацярпелых, 26-гадовая бухгалтар неўзабаве памерла на аперацыйным стале, яшчэ некалькі чалавек атрымалі траўмы. Для самога прадпрыемства наступствы бяды сур'ёзныя: тэхналагічная вытворчасць спынена і яшчэ не хутка будзе адноўлена. Пакуль Следчы камітэт разбіраецца ў прычынах выбуху, кіраўніцтва канцэрна "Белхарчпрам" і Віцебскага лікёра-гарэлачнага завода, у склад якога ўваходзіў спіртзавод у Лынтупах, папярэдне вызначылася, што будзе танней узвесці тут новую сучасную вытворчасць, чым рамантаваць стары корпус. Справа ў тым, што пасля выбуху ўтварылася вялікая скразная трэшчына сцяны галоўнага будынка завода з першага па пяты паверх. Пашкоджанні атрымалі асноўныя калоны па выпуску спірту, абрушыліся лесвічныя маршы, у цэху былі выбіты ўсе вокны. Па падліках на ўзвядзенне новага завода пойдзе пад 70 млрд. рублёў. Робіцца захады па стварэнні неабходнай праектна-каштарыснай дакументацыі. Але цяпер стаіць пытанне працаўладкавання больш сотні працаваўшых тут завадчан і захаваць касцяк высокакваліфікаваных спецыялістаў. Пакуль будзе ісці будаўніцтва новай вытворчасці, на заводзе плануюць захаваць выпуск прамежкавых кампанентаў для іншых прадпрыемстваў галіны, застанецца дзейнічаць старая складская інфраструктура.

**Докшыцкі раён**

# Складаны экзамен у полі

■ Станіслаў Раманчук

**У папярэднія гады на Віцебшчыне аднымі з першых з-за хутчэйшага падсыхання глебы пачыналі веснавую сяўбу гаспадаркі Докшыцкага раёна.**

Вось і ў адным з лепшых у Бярэзінскім краі сельгаспрадпрыемстве "Таргуны" летась у аптымальныя тэрміны справіліся з палявымі работамі, атрымалі ў выніку звыш 16 тысяч тон збожжа. Сёлета планавалі вырасціць зерня ўжо 20 тысяч тон і 1450 тон рапсу і шмат для гэтага зрабілі яшчэ мінулагодняй восенню, калі ўзаралі ўвесь клін, заправілі ў глебу на 10 тысячах гектараў калійныя ўгнаенні. Пад будучую сяўбу цяпер унеслі звыш 83 тысяч тон арганікі, уся тэхніка і пасяўныя агрэгаты, у адрозненне ад іншых, былі своечасова адрамантаваны. Аднак у справу ў раёне, як і ў цэлым па Беларусі, неспадзявана сур'ёзна ўмяшалася надвор'е. Зацяжная халодная вясна могуць моцна пашкодзіць паўсюдна пасевы азімых, шмат дзе іх прыйдзецца перасяваць і падкармліваць. Пры дэфіцыце сродкаў, як заўсёды, у гаспадарак ёсць праблемы з набыццём шын для калёс. На энерганасычаныя трактары "Беларусы", на якія робіцца стаўка ў пільніцу, адно такое кола каштуе амаль 20 млн. рублёў, а гума беларускай вытворчасці ўжо праз год эксплуатацыі выходзіць са строю. Нават для моцных гаспадарак, да якіх адносяцца "Таргуны", сёлета адной з вострых праблем будзе недахоп паліва. Толькі на адзін дзень працы патрабуецца мець саляркі і бензіна болей 9 тон. Як і суседзям прыйшлося аформіць крэдыты на паліва, каб працаваць без перабояў. За кошт працы ў дзве змены ў раёне разлічваюць правесці веснавую сяўбу за паўмесяца, інакш можа быць недабор прадукцыі восенню.

**Віцебская вобласць**

# З маленства ў вадзе

■ Чэслаў Якубовіч

**З-за эканамічных цяжкасцей, падобна на тое, узводзіць дарагакаштуючыя Лядовыя палацы ў беларускай глыбінцы болей не будуць.**

На шчасце, на Віцебшчыне захавалася мода на плавальныя басейны і такія аздараўленчыя цэнтры апошнім часам з'явіліся ў Расонах, Наваполацку, а ў Паставах услед за плавальнымі дарожкамі для дарослых сёлета ў пачатку года адкрыўся малы басейн пры дзіцячым садзе № 1 "Крынічка". Сёлета працягваецца праца па ўзвядзенні басейнаў у яшчэ двух райцэнтрах вобласці – Докшыцы і Ушачы. Не адстае ад малых гарадоў і наш абласны цэнтр, дзе ў студзені з'явіліся плыўцы ў басейне пры віцебскай СШ № 4. Падобныя цэнтры здароўя для самых маленькіх гараджан таксама былі здадзены за два апошнія гады і ў двух новых сучасных дзіцячых садках буйных мікрараёнаў абласнога цэнтра. Услед за імі днямі поўнасцю завяршылася рэканструкцыя старэйшага гарадскога плавальнага комплекса "Маладосць". Спачатку 4 гады назад запрацаваў галоўны яго басейн для дарослых. Яшчэ 2,5 млрд. рублёў было зрасходавана, каб у ДЮСШ № 8 па плаванні з'явіўся свой малы басейн, аснашчаны сучаснай сістэмай ачысткі і падачы вады, вентыляцыяй, утульнымі душавымі. Ад старога памяшкання засталіся толькі сцены, і гэты цэнтр здароўя зараз прымае не толькі выхаванцаў спортшколы, але і ўсіх жадаючых навучыцца плаваць і паправіць сваё здароўе, пачынаючы з 4-гадовага ўзросту.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 18.04.13 | | | | Пятніца 19.04.13 | | | | Субота 20.04.13 | | | | Нядзеля 21.04.13 | | | | Пнд.22.04.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +7 | +10 | +16 | +12 | +9 | +12 | +10 | +7 | +5 | +7 | +12 | +6 | 0 | +2 | +7 | +4 | +2 | +5 | +9 |
| Ціск | 752 | 752 | 751 | 749 | 748 | 748 | 749 | 749 | 750 | 752 | 753 | 754 | 756 | 757 | 757 | 756 | 756 | 756 | 755 |
| Вільготнасць | 90 | 84 | 58 | 60 | 70 | 65 | 75 | 78 | 88 | 74 | 38 | 62 | 67 | 60 | 42 | 62 | 83 | 81 | 46 |
| Вецер м/сек | 2 Пд-З | 2 Пд-З | 4 Пд-З | 4 Пд-З | 5 Пд-З | 5 Пд-З | 3 З | 1 Пд-З | 2 Пн-З | 2 Пн-З | 5 З | 4 Пн-З | 5 Пн | 5 Пн | 6 Пн | 4 Пн-У | 4 Пн-У | 6 Пн-У | 6 Пн-У |

# Аб самым надзёным

## ПАСТАЯННЫЯ ЧЫСТКІ СЯРОД ВЫШЭЙШЫХ ЧЫНОЎНІКАЎ І ЛЮДЗЕЙ У ПАГОНАХ ПАКУЛЬ НЕ ДАПАМАГЛІ СПРАВІЦЦА З КАРУПЦЫЯЙ




■ Аляксандр Цішкевіч

**Высокае службовае становішча ў Беларусі, як вынікае, зусім не гарантыя, што чалавек крыштальна чысты і сумленны, жыве па боскіх законах сціпласці і маральна бездакорны…**

Апошнім часам беларусам, занятым на дзяржаўнай службе, у праваахоўных і іншых сілавых структурах, прыходзіцца нясоладка і не толькі таму, што патрабаванні да іх дзейнасці растуць. У гэтай сферы цяпер сталі моднымі розныя рэарганізацыі, не спыняюцца хвалі кадравых перастановак і перамяшчэнняў. Зусім хутка ў Беларусі пачнецца маштабная кампанія скарачэння штатаў чыноўнікаў розных рангаў, супрацоўнікаў міліцыі, Следчага камітэта, пракуратуры ды і без ранейшых гарантый звольненых з працы людзей.

А яшчэ цяпер бесперапынным патокам ідуць паведамленні аб затрыманнях і закрытых, як правіла, судовых працэсах над тымі, хто зусім нядаўна займаў высокія пасады, а стаў ахвярай збегу абставін ці чаго іншага, у чым цяжка разабрацца. Вось ужо амаль два дзесяцігоддзі, як вядома, у нашай краіне аб'яўлена сапраўдная барацьба па выяўленні і прадухіленні фактаў карупцыі. Прэзідэнт на гэтай хвалі прыйшоў да ўлады і гэту дзейнасць трымае на пастаянным сваім кантролі, паколькі такая гідра ўсюды ў свеце наносіць значны ўрон інтарэсам дзяржавы і грамадства..

Была прынята ў нас нават Дзяржаўная праграма па ўзмацненні барацьбы з карупцыяй на 2002-2006 гады і быццам тады ўдалося дабіцца скарачэння фактаў хабару і крадзяжоў, звязаных са злоўжываннем уладай і службовымі паўнамоцтвамі, прыкладна на 12 %. Аднак па-ранейшаму зноў чуем пра гучныя карупцыйныя скандалы і арышты ўплывовых людзей. Напрыканцы сакавіка быў затрыманы, да прыкладу, не абы хто, а падпалкоўнік міліцыі У. Кротаў, які кіраваў галоўным упраўленнем уласнай бяспекі МУС Беларусі.

Праз пару дзён пасля гэтага ўжо Ваенная калегія Вярхоўнага суда РБ прыгаварыла былога намесніка галоўнагаміліцыянера краіны Я. Полудзеня, начальніка міліцыі грамадскай бяспекі да 3,5 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці і адбыццём пакарання ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. У яго забралі аўтамабіль з наўтбукам, дарагі мабільны тэлефон, 9 млн. рублёў, каньяк, але знялі абвінавачванні ў атрыманні хабару, бо яны не былі пацверджаны ў судзе. Тым часам у закрытым для СМІ рэжыме пачалося следства нават у святая святых – ва Упраўленні справамі прэзідэнта, дзе прасачылася інфармацыя аб крадзяжах нават саджанцаў блакітных елак на 1,5 млн. рублёў.

Пасля кадравых разборак у Гомелі і ўзбуджэння спраў па кватэрных махінацыях там павесіўся экс-першы віцэ-мэр горада. Такім жа чынам развітаўся з жыццём адзін са старшых афіцэраў КДБ. Турэмныя тэрміны зарабілі сабе былы старшыня Гродзенскага аблсавета дэпутатаў і былы намеснік старшыні Віцебскага аблвыканкама. Прайшоў суд таксама ў закрытым рэжыме над першым віцэ-мэрам Мінска за хабар у 0,5 млн. долараў. Пашчасціла толькі былому старшыні Полацкага гарвыканкама, якога вызвалілі ад адказнасці разам з памочнікамі. А вось у Клімавічах асудзілі цэлую групу афіцэраў райаддзела міліцыі на чале з былым начальнікам.

Такіх прыкладаў "гучных крымінальных спраў" можна прыводзіць мноства. У нашай рэчаіснасці ўжо добра, калі міністра, генерала, іншага чыноўніка высокага рангу проста звольняць з займаемай пасады з фармуліроўкай аб пераводзе на іншую работу. У структурах МУС і КДБ пастаянна мяняюцца і перамяшчаюцца кіраўнікі абласных упраўленняў і цэнтральнага апарату і праводзіцца кампанія "амаладжэння кадраў". У далёкім мінулым падобным чынам выўлялі "ворагаў народа", але цяпер, слава Богу, не сталінскія часы і апарат рэпрэсій не можа быць запушчаны, да расстрэлаў даходзіць, калі справа дайшла да тэракту ў метро.

З іншага боку і добра, што ў нас уплывовыя начальнікі, міліцыянеры не робіцца нейкай асаблівай кастай. А вось існуючы рэжым асаблівай сакрэтнасці вакол такіх спраў толькі шкодзіць выяўленню і прадухіленню новых фактаў карупцыі. У Беларусі відавочна ўжо даволі значнае расслаенне грамадства на багатых і бедных, хоць у нас доларавых мільярдэраў і мільянераў значна меней у параўнанні з Расіяй. Але ж калі ў Мінску арыштоўвалі і судзілі ўплывовых міліцыянераў, то на аўкцыёне невядомы багаценькі беларус купіў толькі ўчастак 15 сотак зямлі паблізу сталіцы за амаль 300 тысяч долараў. Якім жа такім суперпрыбытковым бізнесам можа займацца гэты чалавек, ці быў ён праз даверанных асоб альбо сам асабіста звязаны з дзяржслужбай? Высокае службовае становішча ў Беларусі, як вынікае, зусім не гарантыя, што чалавек крыштальна чысты і сумленны, жыве па боскіх законах сціпласці і маральна бездакорны…

## Дзень за днём

**Незвычайна халодны пачатак вясны сёлета больш чым на паўмесяца затрымаў пачатак веснавых палявых работ. Такога халоднага і снежнага сакавіка, як сёлета, не назіралася з 1963 года, у асобных паўднёвых раёнах выпала нават 2-4 месячныя нормы ападкаў. У Беларусі няма магчымасці пакуль кампенсаваць людзям страчаныя савецкія банкаўскія ўклады. Сталічныя ўлады хочуць сёлета двойчы павысіць плату за праезд у грамадскім транспарце да 2300 рублёў за адну паездку. Па колькасці насельніцтва Беларусь апусцілася на 89-е месца ў свеце і на 18-е ў Еўропе, а сярэдняя працягласць жыцця беларусаў узрасла да 72,2 года. Наша краіна дамовілася з Турцыяй аб бязвізавых паездках нашых грамадзян.**

# Важнейшыя навіны свету

**Кіпр.** Улады паабяцалі, што прычыны моцнага крызісу стануць прадметам крымінальнага расследвання, кіраўнік нацбанка падаў у адстаўку, хоць ЕС і Міжнародны валютны фонд далі дапамогу.

**Украіна.** У рамках рэверсных паставак з Еўропы краіна пачала атрымоўваць больш танны за расійскі газ з тэрыторыі Венгрыі, раней так дапамагалі ўкраінцам палівам палякі.

**ЗША.** Савет бяспекі ААН прыняў рэзалюцыю і ўпершыню дазволіў сваім міратворчым сілам атакаваць першымі баевікоў і тэрарыстаў у Дэмакратычнай Рэспубліцы Конга.

**Польшча.** Міністр абароны Томаш Семонак пабываў у Японіі з прапановамі аб налажванні супрацоўніцтва ў стварэнні польскай сістэмы супрацьракетнай абароны.

**Літва.** Віцэ-міністр замежных спраў ЛР А. Крывас заявіў, што ЕС дагэтуль чакае адказу Беларусі на прапановы 2011 года пачаць перамовы аб спрашчэнні візавага рэжыму.

**Англія.** Вучоныя ўніверсітэта ў Эдынбургу навучыліся ствараць асобныя стваалавыя клеткі, да 2015 года разлічваюць мець з іх печань, іншыя донарскія органы.

**Нарвегія**. У мэтах бяспекі кіраўніцтва турмы Іла не адпусціла асуджанага на 21 год тэрарыста А. Брэйвіка на пахаванне 67-гадовай маці, ёй хворай дазволілі яго наведаць.

**Расія.** Пасля павышэння розвнічных цэн і акцызаў на гарэлку яе продаж у рэгіёнах РФ упаў сёлета на 20-25 %, расіяне сталі актыўна піць нелегальны алкаголь, самагонку.

**Танзанія.** У буйнейшым горадзе краіны Дар-эс-Саламе рухнуў недабудаваны 14-павярховы дом, пад заваламі аказалася шмат людзей, дзясяткі загінулі і былі паранены.

**Англія.** Урачы выратавалі моцна параненую ісламістамі 15-гадовую пакістанскую праваабаронцу Малалу Юсафзай, па кантракту за 3 млн. $ яна напіша кнігу мемуараў.

**Чэхія.** На XX Міжнародным кінафестывалі Febiofest у Празе мастацкі фільм "Жыве Беларусь!" заняў 2-е месца сярод прадстаўленых на конкурс 14 іншых кінаработ.

**ЗША.** Афіцыянтка рэстарана ў штаце Алабама вярнула пенсіянеру забытую куртку з 14 тысячамі даляраў у кішэні і адмовілася ад любой узнагароды ў знак падзякі.

**Францыя.** Вядомы палітолаг, доктар навук Ларан Вінацье заявіў, што сённяшняя Беларусь стала тым, чым збіраўся быць тагачасны СССР, яе многія лічаць ужо суб'ектам Расіі.

**Расія.** Прэзідэнт У. Пуцін прапанаваў увесці ў РФ з 1 верасня абавязковае нашэнне школьнай формы, а рэгіёнам – даць права вызначацца з яе дэталямі і асаблівасцямі.

**Ватыкан.** Новы Папа Рымскі Францішак адмовіўся жыць у афіцыйных апартаментах сваёй рэзідэнцыі, стаў абедаць у агульнай сталовай, а яшчэ раней ён замяніў свой трон на крэсла.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** За пару дзён прадалі першыя 7 легкавых беларуска-кітайскіх аўтамабіляў Geely SC7 зборкі завода "БелДжы" ў Барысаве, на красавік заказалі 40 машын для рэалізацыі.

**Баранавічы.** Дырэкцыя ААТ "Бархім" прызнала, што сур'ёзных інвестараў з Германіі і Польшчы не пусцілі выкупіць дзяржпакет акцый за 7,8 мільёна долараў і мадэрнізіраваць завод.

**Мінск.** Міністр фінансаў РБ Андрэй Харкавец папярэдзіў пра магчымае істотнае падзенне золатавалютных рэзерваў з-за выплат замежных даўгоў, адна надзея на новыя займы.

**Мазыр.** Пасля крызісу 2011 года мясцовы НПЗ павялічыў свой прыбытак у 104 разы да 2,1 трл. рублёў, аднак Наваполацкі "Нафтан" працуе яшчэ больш эфектыўней (3,3 трыльёна).

**Іўе.** Ноччу на тэрыторыі раёна заснуў за рулём польскі вадзіцель-дальбойшчык, яго фура сутыкнулася з мікрааўтобусам, 23-гадовы кіроўца якога і пасажырка 21 гадоў загінулі.

**Мінск.** Пры сярэдняй зарплаце па РБ 522 $ у самым прэстыжным Цэнтральным раёне сталіцы кошт квадратнага метра жылплошчы дасягнуў 2 тыс. $, жыллё даражэе.

**Гродна.** КДБ прадставіў кіраўніцтву вобласці звесткі аб тым, што ў дзяржуніверсітэце імя Я. Купалы працуюць 16 выкладчыкаў, якія нібыта " заклікаюць звергнуць уладу".

**Маладзечна.** Міліцыя затрымала 27-гадовага мярзотніка, які напужаў на дарозе на працу жыхарку станцыі Аляхновічы, прыставіў да горла нож і забраў усе грошы.

**Мінск.** Падчас круглага стала ў газеце "Звязда" групы гісторыкаў і экспертаў Акадэміі навук Беларусі аднадушна высока адзначылі ролю БНР у станаўленні нашай дзяржавы.

**Клімавічы.** Прыгаворам суда 11 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму атрымаў былы начальнік райаддзела міліцыі А. Арцёменка за злачынствы карупцыйнай скіраванасці.

**Гродна.** У магазіне з канфіскатам на ўскрайку горада сталі прадаваць канфіскаваныя летась каля 200 кніг і часопісаў падчас прэзентацыі недзяржаўнага часопіса "Arche".

**Мінск.** Найменш загружаны (на 15 %) ў сталіцы аўтавакзал "Усходні" будзе мадэрнізіраваны ў стылі хай-тэк, зверху над ім размесцяцца буйны гандлёвы комплекс.

**Светлагорск.** Бухгалтар са стажам райаддзела адукацыі амаль 4 гады налічвала зарплату выдуманым ёй тром "мёртвым душам" і змагла прысвоіць 200 млн. рублёў.

**Шчучын.** У вёсцы Вялікае Мажэйкава 43-гадовы мужчына напіўся, вырашыў атруціцца газам, але толькі ўзарваў свой дом і з апёкамі 25 % цела трапіў у рэанімацыю райбальніцы.

**Мінск.** Старшыня спартаварыства "Дынама" Ю. Бародзіч паведаміў, што хакейны клуб заплаціў за сезон падаткі на суму 3 мільёнаў долараў пры заробках ігракоў 50 тыс. долараў у месяц.

# У БЕЛАРУСЬ ВЯРТАЮЦЬ ШКОЛЫ «З УХІЛАМ»



■ **БЕЛТА**

**З 2013/2014 навучальнага года ў дзясятых класах сярэдніх школ Беларусі дазволена арганізоўваць вывучэнне прадметаў на павышаным узроўні. Аб гэтым карэспандэнту БЕЛТА расказалі ў Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь.**

На павышаным узроўні могуць вывучацца два навучальных прадметы адпаведнага напрамку: фізіка-матэматычнага, хіміка-біялагічнага, грамадазнаўчага, філалагічнага.

Навучанне можа быць арганізавана па двух мадэлях: аб'яднанне ў клас навучэнцаў для вывучэння на павышаным узроўні аднаго напрамку і аб'яднанне ў клас навучэнцаў для вывучэння на павышаным узроўні прадметаў па розных напрамках. Першую мадэль мэтазгодна выкарыстоўваць пры наяўнасці ў школе некалькіх дзясятых класаў. Другую - там, дзе немагчыма сфарміраваць адзін клас (24 вучні) па адным кірунку. «Пры складанні раскладу заняткаў па другой мадэлі трэба прадугледзець магчымасць вывучэння ўсім класам вучэбных прадметаў на базавым узроўні і магчымасць адначасова разысціся па групах падчас заняткаў на павышаным узроўні», - адзначылі ў ведамстве.

Будуць вызначаны сярэдія школы, у якіх адукацыйны працэс з вывучэннем асобных прадметаў на павышаным узроўні (спачатку ў 10-х класах, а ў 2014/2015 навучальным годзе - у 10-х і 11-х) будзе арганізаваны з улікам усіх складнікаў. Пры гэтым для кожнай сярэдняй школы, магчыма, будуць вызначаныя напрамкі для вывучэння на павышаным узроўні адпаведных навучальных прадметаў. Разам з тым у некаторых сярэдніх школах усе прадметы будуць вывучацца на базавым узроўні, а на факультатыўных занятках будзе ажыццяўляцца рэалізацыя індывідуальных інтарэсаў, схільнасцей і здольнасцей вучняў.

Колькасць навучэнцаў у групе пры вывучэнні вучэбных прадметаў на павышаным узроўні па другой мадэлі павінна быць такой жа, як і колькасць вучняў на факультатыўных занятках. Напаўняльнасць групы ў сельскіх школах павінна складаць не менш за трох навучэнцаў, а ў гарадах і пасёлках гарадскога тыпу - не менш пяці. Далей за кошт гадзін, якія выдзяляюцца для правядзення факультатыўных заняткаў, можна працягнуць вывучэнне на павышаным узроўні як раней выбраных вучэбных прадметаў, так і іншых навучальных прадметаў з пераліку тыпавога вучэбнага плана.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** З трэскам праваліўся праект стварэння 2-й авіякампаніі Беларусі "Вітавія", яна абанкруцілася, а сабраныя для яе ў Чэхіі самалёты прадаў завод іншым заказчыкам.

**Полацк.** На здачу новага дзіцячага сада на 200 месц ў новым мікраараёне не хапае яшчэ 20 мільярдаў рублёў. Але нават і пасля яго адкрыцця ў горадзе стаяць ў чарзе на месца ў садку яшчэ амаль паўтысячы дзетак.

**Орша.** Для працы на ўзводзімых аб'ектах мясцоваму будаўнічамантажнаму поезду № 724 не хапае мінімум 150 спецыялістаўбудаўнікоў, хоць і адток кадраў у гэтай галіне кадраў з Беларусі ў Расію спыніўся.

**Гарадок.** Супраць 1-га намесніка кіраўніка раённачальніка райсельгасхарча распачалі крымінальную справу па падазрэннях у крадзяжах у буйных памерах, злоўжыванні ўладай.

**Чашнікі.** Напярэдадні сяўбы сельгаспрадпрыемства "Лукомль" засталося практычна без механізатараў, нават пад ціскам улад РУП "Віцебскэнерга" не хоча браць калгас-банкрут.

**Глыбокае.** Падчас прафілактычнай акцыі "Вобраз жыцця – толькі здаровы" ў раёне на працягу 1 дня забаранілі рэалізацыю любой алкагольнай прадукцыі ў магазінах горада, да яе аднесліся і нават піва.

**Шуміліна.** Обальскі керамічны завод адкрыў у сябе цяпліцу і пачаў вырошчваць кветкі і расаду астр, геаргінь, сальвіі і на продаж расаду памідор, перцу, вырошчванне гародніны.

**Орша.** Новыя гаспадары авіярамонтнага завода з Украіны пачалі асвойваць тут выпуск новых верталётаў "МСБ-2", да канца года заказчыкам перададуць яшчэ больш 20 іншых .

**Віцебск.** У абласным цэнтры адкрылася першае ў вобласці адвакацкае бюро "Прававая пазіцыя" ў складзе 4-х вопытных юрыстаў па крымінальных, грамадзянскіх справах.

**Верхнядзвінск.** З нагоды 70-годдзя Асвейскай трагедыі расійскі фонд "Гістарычная памяць" зняў два дакументальныя фільмы аб падзеях таго часу, у Мінску выйдзе кніга.

**Докшыцы.** З-за неасцярожнасці пенсіянера з мястэчка Ваўкалаты ў яго хлеве згарэлі карова, свіння і куры, пажарныя не далі агню перакінуцца на гараж, лазню і жылы дом.

**Віцебск.** Урад Швецыі выдзеліў грант у памеры 13,6 мільёна еўра на мадэрнізацыю водаачыстных збудаванняў абласнога цэнтра і яшчэ чатырох буйных гарадоў Беларусі.

**Лепель.** Да Дня горада ў верасні з'явіцца сёлета за сродкі ЕС двухметровая скульптурная кампазіцыя Цмока – фальклорнатурыстычнага сімвала гэтай мясцовасці.

**Докшыцы.** У райцэнтры пабывала дэлегацыя з латвійскага горадапабраціма Балві, узгадніла план супрацоўніцтва на год, паабяцала прыслаць у маі свой духавы аркестр.

**Віцебск.** На нацыянальны фестываль драматургіі ў Славеніі запрасілі драмтэатр імя Я. Коласа з яго новай пастаноўкай "Леанарда", спектакль стаў дэбютам на малой сцэне.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

**Заканчэнне.**
*Пачатак на стар. 1.*

## Велікодная сустрэча ў Лучаі:
# Святочна, шчыра, творча

■ **Іна СНЯЖКОВА.**
*Фота: Альфрэд МІКУС, Карына РАДЗЮШ.*



Увесь мінулы тыдзень каталікі Беларусі і ўсяго свету працягвалі радавацца Уваскрасенню Пана — у касцёлах адбыліся ўрачыстыя службы і велікодныя сустрэчы. Не абмінула свята і вёску Лучай — 7 красавіка тут адбылося мерапрыемства, прасякнутае не толькі верай, але і творчасцю.

Велікодная сустрэча пачалася з нядзельнай святой Імшы. У той дзень яна была асаблівая: споўнілася шэсць гадоў, як Лучайскую парафію ўзначальвае ксёндз Мікалай Ліпскі. Пасля заканчэння Імшы ён пачуў шмат шчырых віншаванняў і цёплых слоў.

– Гады праляцелі як адзін тыдзень,– прызнаецца святар. — Лічу служэнне ў Лучаі Божым Провідам. Менавіта сюды я прыходзіў юнаком, тут аднавіў сваю веру. Нараўне з Шаркоўшчынай гэта мая другая малая радзіма. Таму, кіруючы гэтай супольнасцю, адчуваю вялікую адказнасць. Рабіў і буду рабіць усё магчымае на карысць Касцёлу і людзям.

Якія здабыткі ксёндз лічыць галоўнымі за гады святарства? Па-першае, навяртанне людзей. Святара асабліва радуе, што ў касцёл прыходзіць усё больш моладзі, дзетак з бацькамі — а гэта ж будучыня касцёла. “Дзякуючы нашым бабулям, вера перададзена наступным пакаленням і вельмі важна, каб мы яе ўзмацнялі і жылі паводле яе,” — упэўнены Мікалай Ліпскі.

Па-другое, зацікаўленасць да Лучая ў апошнія гады вельмі вырасла: на шматлікія святы сюды прыязджаюць вернікі з самых розных парафій. Усё большая колькасць людзей наведваецца ў гэтыя мясціны не толькі палюбавацца маляўнічымі краявідамі, але таксама пазнаць гісторыю і, канечне, памаліцца.

– Гэта праца ўсіх нас, – падкрэслівае святар. — Разам нам многае па сілах. І надалей будзем старацца радаваць парафіян культурнымі беларускамоўнымі мерапрыемствамі, якія ўжо сталі традыцыйнымі. Дзякуй Богу, творцы адгукаюцца на нашы прапановы падзяліцца сваёй творчасцю ў сценах храма. Тым самым мы адкрываем вернікам невераготна цікавы свет песні, паэзіі. Як можна не захапляцца роднай культурай?

У той дзень Лучай таксама сустракаў ганаровых гасцей — маладога паэта Усевалада Сцебураку і вядомага беларускага барда Зміцера Бартосіка. Яны падаравалі прысутным сапраўднае свята творчасці: прагучалі пранікнёныя, адарваныя ад сэрца вершы, а таксама песні на словы класічных Акуджавы, Высоцкага… Прычым прагучалі па-беларуску – іх на родную мову памайстэрску пераклаў Рыгор Барадулін.

– Уражанні ад вандроўкі ў Лучай толькі станоўчыя, — расказаў пасля завяршэння свята Усевалад Сцебурака. — Па-першае, уразіла само месца — мая ўлюбёная Заходняя Беларусь, край прыгожых азёраў і лясоў. Па-другое, мясціны блізкія да маёй малой радзімы — Вілейкі. Патрэцяе, сам факт выступлення ў касцёле пакідае шэраг эмоцый. Не выказаць уражанні, якія адчуваеш, калі стаіш у храме тварам да паспольства. Гэта асалода, якую цяжка з чымсьці параўнаць. А акустыка — проста дзіўная! Здаецца, радкі набываюць новае гучанне — больш глыбокае і важкае…

– Радуе неабыякавасць людзей да беларускай культуры, — падзяліўся ўражаннямі Зміцер Бартосік. — Нягледзячы на халоднае надвор’е, многія парафіяне засталіся на наша выступленне. У вачах публікі я бачыў жывую зацікаўленасць, мне падалося, людзі разумелі тое, што я спяваў. Спадзяюся, гэта не апошняя сустрэча з лучайскай публікай.

Вернікі прытрымліваюцца такой жа думкі.





У лучайскім касцёле спявае Зміцер Бартосік, бард і журналіст.



Кветкі ад лучайцаў – паэту Усеваладу Сцебураку.

# Снег стаяў і паўстала апакаліптычная карціна

■ **Уладзімір Скрабатун**



Удзяцінстве мой сусед Яўстафій Жук баіў мне розныя гісторыі з «польскіх часоў». Нібыта два паліцыянты трымалі ў страху не толькі Глыбокае, але і ўсё наваколле. Ездзілі на конях, таму маглі нечакана з'явіцца і ў Станулях.

Дык вось: едзе, напрыклад, чалавек на фурманцы праз Глыбокае, а ў фурманцы ляжыць вядро, савок і венік. Наклаў конь на брук «пончыкаў» – гаспадар спыняе яго, дастае савок, венік і зграбае ўсё лайно ў вядро, ставіць яго ў павозку ды едзе далей.

– А калі не сабярэ?– пытаю Яўстафія,– і паедзе ён далей.

– Дык паліцыянт яму гумай – у карак, у карак!!! Запомніць на ўсё жыццё!

І тут у думках я пачынаў уяўляць такую віртуальную карціну: едзе мужык па вуліцы Варшаўскай (Маскоўскай), а конь пакінуў на бруку «пончыкі», фурман жа, як быццам нічога і не здарылася, паехаў далей... А тут яго спыняе конны паліцыянт, падыходзіць і гумовай палкай збівае мужыка: па галаве, па спіне, па дупе... Жах!

Што ні кажы, але парадак, які навялі палякі, адчуваўся яшчэ і ў 1960-ыя гг. Гэта цяпер перад вокнамі у кожнага алыча расце, а тады – півоні і вяргіні.

Ужо 22 гады як Рэспубліка Беларусь – незалежная краіна. І што? Увесь гэты час грамадства, школа, СМІ выхоўвала не патрыётаў, а ворагаў сваёй жа краіны. Не можа быць у нас аніякай культуры, калі вучым чужую гісторыю, размаўляем на мове чужой краіны, спяваем не свае песні... Ніяк не магу зразумець людзей, якія з захапленнем апавядаюць, выхваляюцца аб сваёй перамозе, маўляў мы ўсе сабралі подпісы і перавялі школы і садзікі на рускую мову, «не патрэбны нашым дзецям гэты калгасны бэнээфаўскі «язык»! Нашы дзеці заслугоўваюць лепшай долі, ды й навогул яны не збіраюцца тут жыць. Паедуць у Амерыку, Канаду...»

Але з'едуць можа і не ўсе, нехта ж застанецца... Жадаецце жыць у ціхай сінявокай Беларусі, але піць рускую водку, размаўляць па-руску, захапляцца палкаводцам Суворавым – душыцелем беларускага народа? Так не бывае, бо добрымі нібыта намерамі – забрукаваная дарога ў пекла. За ўсё трэба плаціць! Хацелі, каб тут было ўсё па-руску? Дык атрымайце і рускую культурку – у нагрузку!

Вось ён яскравы прыклад – прыйдзіце цяпер на бераг возера Кагальнага і вы навочна ўбачыце за якую культуру змагаліся вышэйзгаданыя мною спадары. Тысячы і тысячы шкляных і пластыкавых бутэлек, пакетаў ад соку, цэлафанавых мяшкоў, пачкі ад цыгарэтаў – ляжаць на лёдзе, блішчаць на сонцы. Усё возера – глабальны сметнік у ЦЭНТРЫ горада! Гэта ў нас рыбакі такія! На возера ходзяць – як у рэстаран! Вудачкі і скрынкі бяруць для выгляду, каб жонкі не западозрылі. Збіраюцца купамі па ўсім возеры: выпілі, закусілі, пакурылі – кінулі на лёдзе. Мала! Пайшлі ў краму – яшчэ прыкупілі! Куча смецця ўзрасла ўдвая!

Як свінні: дзе папілі і паелі, там і насралі! (Перапрашаю!) І гэта беларускі народ? Не! Гэта – быдла!

Але і моладзь не лепшая за рыбакоў! Я прайшоў па набярэжнай возера сотні дзве метраў... Тысячы бутэлек плаваюць у вадзе проста побач з тратурам. Ну, папілі вы піва – пакладзіце бутэльку ў сметнік, якіх тут шмат! Не! Пуляюць усё ў возера! Ага! Самі ж іх бацькі кажуць: Нашым дзецям тут не жыць! У Амерыку паедуць!» Тут і гумай па галаве – ужо не дапаможа! Чужая для іх краіна і горад!



Такіх «нацюрмортаў» – мноства!



Каля самой набярэжнай у вадзе ляжыць кола ад аўтамабіля!



■ Кастусь Шыталь

# Больш не будзе ні Круляўшчызны, ні Шаркаўшчызны?

**«Крулеўшчына», «Шаркаўшчына», «Палевачы» – на афіцыйным сайце БЧ адмовілася ад паланізмаў**

**Беларуская чыгунка 2 красавіка запусціла беларускамоўную версію афіцыйнага сайта - rw.by/be. Прыемным прэцэдэнтам стала адмова ад паланізаваных версій напісання некаторых станцый.**

У 1919-39 гадах наш рэгіён быў у складзе II Рэчы Паспалітай, дзе дзяржаўнай мовай была польская. Калі ў верасні 1939 года прыйшлі Саветы, назвы чыгуначных станцый былі транслітараваныя з польскай мовы – і дасёння на вакзалах пішацца «Круляўшчызна», «Палявачэ», «Параф'янаў», «Шаркаўшчызна».

Упершыню Беларуская чыгунка адышла ад гэтай практыкі – у раскладзе прыгарадных цягнікоў (рэгіянальныя лініі эканом-класа) напісана «Крулеўшчына», Палевачы», «Шаркаўшчына».

Паводле дасведчанага супрацоўніка Беларускай чыгункі, удзельніка форума railwayz.info, гэта было зроблена паводле парады тапанімічнай камісіі Акадэміі навук Беларусі. Паводле камісіі, назвы станцый трэба прывесці ў адпаведнасць назвам населеных пунктаў.

Што праўда, чыгуначнікі падпісалі станцыю «Параф'янаў», хоць мястэчка называецца Параф'янава.

База пошуку і сістэма продажу квіткоў на цягнікі далёкага руху (рэгіянальныя лініі бізнэс-класа, міжрэгіянальныя лініі, міжнародныя лініі) дзейнічае пакуль што па-расійску і «ведае» толькі паланізаваныя назвы. Гэта звязана з тэхнічнымі складанасцямі: пошук прывязаны да сістэмы «Экспрэс», якая ахоплівае чыгункі ўсіх кран былога СССР.

Было б добра, каб адміністрацыя Беларускай чыгункі зусім адмовілася ад паланізаваных назваў, якія ў незалежнай Беларусі гучаць вельмі недарэчна. Ды каб чыгуначнікі перасталі пісаць на вакзалах шыльды па-расійску, як гэта зрабілі, напрыклад у Глыбокім... перад Днём беларускага пісьменства.

Дарэчы, на сайце чыгункі можна знайсці расклад усіх цягнікоў, што ходзяць па Беларусі. Добра, што пры пошуку маршрута загадзя паведамляецца пра адмены прыгарадных цягнікоў. Праезд у пасажырскіх цягніках можна аплаціць праз Інтэрнэт пры дапамозе банкаўскай карткі - у касу тады ісці не трэба, досыць паказаць праваднiку пашпарт. Адрас - rw.by/be

■ Ул. Скрабатун

# Трэба зрабіць высновы на будучыню

**Гэты факт мусіў патрапіць на старонкі нашай газеты яшчэ тыдзень таму. Аднак, газета ўжо была звярстаная, а сама падзея адбылася пазней, увечары. Між тым, гэты выпадак не губляе сваё актуальнасці і сёння. Проста, з гэтага трэба зрабіць высновы на будучыню. Такое можа паўтарыцца ізноў і прывесці да трагічных наступстваў.**

У Глыбокім з даху крамы "ВінКон" (віно-кансервы) зляцела вялікая гурба з лёду і снегу. Пашкоджаныя дзве машыны, павылятала шкло з дзвярэй. Ахвяраў людскіх няма, бо не быў час пік.

Адзін з пацярпелых аўтааматараў, на шчасце лёсу, які працуе ў краме тэлевізійных тавараў "Віцязь", ужо сыходзіў з працы, але быў нечакана спынены яго дырэктарам, спадаром Фаміным, для далейшых "інструкцый". Не спыні яго дырэктар на хвіліну – то, невядома, чым бы ўсё скончылася. Гурба ўпала ў вобласць пасажырскіх дзвярэй, а ў аўтааматара вадзіцельская дзвёрка – няспраўная, ён сядаў праз пасажырскую.

Зразумела, прыехала ДАІ, склалі пратакол. Але і вінаватых, як быццам, няма! Хто ж будзе кампенсаваць урон? Пацярпелы патэлефанаваў кіраўніцтву Падсвільскага вінзавода, бо "ВінКон" – фірмовая крама завода. Па словах спадара Фаміна, там сказалі прыкладна так: «Адчапіся! Машына стаяла не на тратуары, а на праезнай частцы. Куды звалілася гурба? На праезную частку! То гэта – Вашыя праблемы!»







Вось і бегаюць аўтааматары цяпер, то ў райвыканкам, то ў дзяржстрах, то яшчэ куды…

Тое, што гэтая гурба некалі зваліцца -- было зразумела даўно... Тут і да бабкі не хадзі! Трэба было камусьці толькі глянуць уверх, на дах, з супрацьлеглага боку вуліцы. Праз год тое можа паўтарыцца і з наступствамі, пра якія і не хочацца гадаць.

*Здымкі Надзеі Скрабатун.*

# Крыгаход на Беразвіцы як на саліднай вялікай рацэ!



**Крыгаход на Беразвіцы ў раёне вёсак Майсюціна-Гараўляны.** *Фота Кастуся Бахіра.*

■ Уладзімір Скрабатун

– Эх, Бярозаўка, Бярозаўка!!! – сумна ўздыхаў Шымон Бахір, чалавек сталага ўзросту, жыхар Варшавы і сваяк аўтара гэтага здымка. – Прыехаць бы яшчэ, пахадзіць яе берагамі, дзе прайшло дзяцінства, палавіць ізноў курмялькоў[1],– казаў спадар Шымон аўтару гэтых радкоў праз Скайп. Ягоны сталы статус у Скайпе – «Piszę wspomnienia» – «Пішу ўспаміны». Мо пра Бярозаўку? Пра курмялькоў?

Бярозаўка пасля зліцця з Аржаніцай, Маргвой і Дабрылакай – становіцца ўжо саліднай ракой. Гэта – раён вёскі Панфілаўшчына, куды ўзімку едзе мноства рыбакоў. Тут ужо, калі вывудзіш плотку, дык гэта – не рыбка, а рыбіна! – 45 штук злавіў учора,– хваліўся мне ў сакавіку адзін рыбак,– зважыў – 5 кіляў!

Дзіўная Бярозаўка рэчка! У розных месцах носіць сваё асобнае імя. Ад Ластавічаў да Глыбокага – Пескаватка, у межах Глыбокага, чамусьці, – Крывая, з Падлазнага возера выцякае – Беразвіцай, а ўжо за Удзелам – Бярозаўка.

Няма адназначнага напісання і на польскіх картах перыяду 1920-39 гг. Разнабой! З Глыбокага выцякае Бярозаўкай, а ў раёне вёскі Панфілаўшчына падпісаная – Беразвіца.

[1] Курмель – рэгіянальнае слова, якім ад Глыбокага да Себежа (Пскоўская вобласць, колішнія беларускія землі) – клічуць пячкура, альбо «пескаря» – па-руску.

■ Ул. Скрабатун

# У Патупах аднавілі пашкоджныя вандаламі надмагільныя помнікі з сямейных пахаванняў легендарнага лекара Міхала Алехны-Гушчы

Яшчэ і сёння знойдуцца людзі ў веку 85-90 гадоў, якія згадаюць добрым словам легендарнага лекара нашага краю Міхала Алехну Гушчу. Да яго ў Патупы па дапамогу ехалі здалёк!

17 верасня 1939 года польская ўлада змянілася савецкай. Аднак яна праіснавала нядоўга – 22 чэрвеня 1941 года гітлераўская Нямеччына распачала вайну з Савецкім Саюзам. Пакуль немцы ішлі да Глыбокага, заставалася некалькі дзён. Савецкія ўлады, перад сыходам, з дапамогай НКУС, правялі масавую «зачыстку» нашага краю, хапалі ўсіх: настаўнікаў, архітэктараў, заможных сялянаў, нават простых сялянаў, якія у часе Першай сусветнай вайны расейскімі салдатамі патрапілі ў палон да немцаў і за 2-4 гады палону добра вывучылі нямецкую мову, хапалі і лекараў... Пагналі калонай у Беразвечча. Схапілі і доктара медыцыны Міхала Алехну-Гушчу. Ісці самастойна ён не мог, бо быў інвалідам, хадзіў па пратэзе. Пасадзілі на павозку, павезлі.

Усіх вязняў Беразвечча, а іх было пад дзве тысячы, пагналі потым калонай па Дарозе Смерці – Беразвечча-Ула. Хто не мог ісці – забівалі па дарозе. Мноства трупаў!

Над калонай ўжо пікіравалі нямецкія самалёты, лётчыкі зразумелі, што гэта – вязні і пачалі трапна страляць з кулямётаў па канваірах. Было зразумела, што калона да мэты не дойдзе. І тады, каля Улы, ўсіх вязняў канваіры паклалі з кулямёта. Загінуў і Міхал Алехна-Гушча.




**Надпіс на помніку: С+П. Караліна (1861-1935) і Францішак (1835-1927) ГУШЧЫ са Скамяноўшчыны (цяпер Лепельшчына, *заў. рэд.*) бацькі доктара Міхала Алехны-Гушчы, вязня Беразвечча, замардаванага у чэрвені 1941 года. Пакой іхным душам.** *Фота Кастуся Бахіра.*




**Справа: Вольга Міхайлаўна Меншыкава, памерла ў 1960 годзе. Асістэнтка доктара Міхала Алехны-Гушчы. Няхай спачывае ў пакоі.** *Фота Кастуся Бахіра.*

# Скупы плаціць двойчы

«Скупы плаціць двойчы» - гэту праўду як нельга лепш разумеюць кіраўнікі, праігнараваўшыя ў свой час прадпісанне інспектара ГПН. Чамусьці шматлікія з іх пачынаюць выпраўляць паказаныя недахопы толькі пасля таго, як тварам да твару сапхнуцца з агністай небяспекай... Таму візіт інспектара ГПН не павінен успрымацца ў багнеты. Няўжо нельга вынясць урок з чужых памылак і паклапаціцца пра бяспеку ўжо цяпер?

Інспекцыяй дзяржаўнага пажарнага нагляду Глыбоцкага РАНС у сакавіку 2013 года праведзены кантрольныя праверкі філіяла «Мнюта» ААТ «Глыбоцкі МКК» (дырэктар Сінкавец Я.І.), ДРБУ №145 КУП «Віцебскаблдарстрой» (дырэктар Васілец А.В.), філіяла «Падсвільскі вінзавод» КУПП «Полацкі вінаробны завод» (дырэктар Муславец С.Ф.), ТАА «Доктар Ціўкат» (дырэктар Ціўкат В.М.), якія паказалі, што кіраўніцтвам аб'ектаў раней атрыманыя прадпісанні выконваюцца, але не ў поўным аб'ёме.

Так, па выніках кантрольнай праверкі філіяла «Мнюта» выяўлена, што прадпісанне органаў дзяржаўнага пажарнага нагляду № 68 ад 21.09.2012 гады выканана на 52% (выканана 16 мерапрыемстваў);

● па выніках кантрольнай праверкі ДРБУ №145 КУП «Віцебскаблдарстрой» выяўлена, што прадпісанне органаў дзяржаўнага пажарнага нагляду № 64 ад 14.09.2012 гады выканана на 30%;

● па выніках кантрольнай праверкі філіяла «Падсвільскі вінзавод» выяўлена, што прадпісанне органаў дзяржаўнага пажарнага нагляду № 54 ад 25.10.2012 гады выканана на 40% (выканана 14 мерапрыемстваў).

Жадаецца ў чарговы раз нагадаць кіраўнікам суб'ектаў гаспадарання пра тое, што адказнасць за невыкананне прадпісанняў наглядных органаў вызначана ст. 23.1 КоАП Рэспублікі Беларусь і вабіць за сабой санкцыі ў памеры да 20 базавых велічынь.

***Інспекцыя дзяржаўнага пажарнага нагляду Глыбоцкага РАНС***

■ **Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Распачаўся сезон адлову браканьераў

Як толькі вясна цалкам уступіла ў свае правы, у прыродзе ўсё ажыло, прыляцелі першыя вясновыя птушкі, звяры ўжо вывелі нашчадкаў, рыба пачала нераст. У гэты перыяд на тэрыторыі ўсёй рэспублікі Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя ўведзены пэўныя абмежаванні і забароны на прамысловую і аматарскую лоўлю.

Вылоўліванне ўсіх відаў рыбы забараняецца з 1 красавіка па 30 траўня, за выключэннем аматарскага рыбалоўства, які здзяйсняецца адной вудай з адным кручком ці адным спінінгам, у светлы час сутак з берага без заходу ў ваду. Ва ўказаны перыяд часу ўводзяцца асобныя абмежаванні толькі на перыяд нерасту, напрыклад – выкарыстанне грамадзянамі маламерных судоў, лоўля рыбы толькі адной вудай і толькі з берага, без заходу ў ваду.

У перыяд забароны і нерасту рыбы ўрон за незаконна здабытую рыбу разлічваецца ў 3-х кратным памеры яе кошту. Так, кошт 1 шчупака незалежна ад яе памеру складае 100 тыс. рублёў (з 1 красавіка), у перыяд забароны 300 тыс. рублёў, адна асобіна ліна ў 2 б.в., а ў перыяд забароны 6 базавых велічынь, г.зн. 600 тысяч рублёў.

Як, паказала практыка мінулых гадоў, у перыяд вясновага нерасту рыбы актывізуюцца браканьеры. Карыстаючыся тым, што рыба ў дадзены перыяд часу актыўная, не вельмі асцярожная, у сувязі з нераставаннем, браканьеры рознымі варварскімі спосабамі спрабуюць налавіць больш, не думаючы пра наступствы.

І ўжо ёсць першыя затрыманыя аматары дарэмшчыны. 15 красавіка 2013 года каля 0 гадзін 20 хвілінаў супрацоўнікі Глыбоцкага аддзела Дэпартамента «Ахова», знаходзячыся на патруляванні, заўважылі двух падазроных грамадзянаў, якія свецяць фарай на раўчук, што ўпадае ў возера Кагальнае г. Глыбокае. Дасведчаныя супрацоўнікі міліцыі адрэагавалі аператыўна і пісьменна, затрымаўшы двух жыхароў г. Глыбокае, якія пры дапамозе восцяў і фары паспелі здабыць дзве асобіны шчупака. Затрыманых парушальнікаў зараз чакае раённы суд, які пакарае кожнага па яго заслугах. Штогод, у перыяд вясновага нерасту супрацоўнікі інспекцыі і міліцыі затрымоўваюць дзясяткі, а па краіне тысячы браканьераў, але, на жаль, прага нажывы, прага забіць бездапаможную рыбіну мацней.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету заклікае грамадзян актыўна дапамагаць супрацоўнікам у спыненні фактаў браканьерства, бо толькі з Вашай дапамогай, неабыякавых да нашай прыроды людзей мы зможам паставіць надзейны заслон браканьерам. Людзі не будзьце абыякавымі да браканьераў, беражыце прыроду. Мы заўсёды гатовыя да супрацоўніцтва.

Тэлефоны «гарачай лініі» кругласутачна: 8-02156: 2-86-70 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 (МТС)

**Будзем удзячныя за любую дапамогу ў ахове прыродных рэсурсаў нашай краіны!**

# Не дамо ператварыць прыроду ў звалку смецця

■ **В.Е. Катовіч,**
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Вясна сёлета не спяшаецца нас цешыць цяплом. Але ўсё ж, сіноптыкі абяцаюць хуткім часам паступовае раставанне снегу і сонечнае надвор'е. Уладальнікі прыватных дамоў дружна пачнуць добраўпарадкоўваць свае ўчасткі, чысціць іх ад смецця, леташняга лісця. Павялічацца і колькасць ахвотнікаўадпачыцьнаўлонні прыроды. Усё гэта плыўна пераходзіць у адну адзіную праблему. І праблема гэта – смецце. Бо часта шматлікія грамадзяне выкідваюць смецце ў неўсталяваных месцах, уладкоўваючы звалкі ў лясных масівах, драўняна-хмызняковых насаджэннях, на абочынах дарог.

Падчас правядзення кантрольна-палявых мерапрыемстваў работнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі расліннага і жывёльнага свету будзе надавацца асаблівая ўвага месцам стаянак аўтамабіляў, месцам адпачынку і знаходжання грамадзян у лясах, у азёр і рэк.

Чысціня і парадак у прыродзе залежыць ад кожнага з нас, ад нашай культуры і ад нашага стаўлення як да самой прыроды, так і да працы тых людзей, якія ствараюць, вырошчваюць, ахоўваюць прыроду і пры гэтым змушаныя збіраць у ёй смецце, пакінутае адпачывальнікамі.

Грамадзяне, якія забруджваюць лясы, драўняна-хмызняковую расліннасць, прыбярэжныя і вадаахоўныя зоны, будуць падвяргацца адміністрацыйнаму пакаранню ў выглядзе папярэджання ці накладання штрафу ў памеры да 20-ці базавых велічынь. Аднак, каб вырашыць праблему захламленасці лясоў, драўняна-хмызняковай расліннасці, вадаахоўнай зоны рэк і азёр, недастаткова аднаго толькі пакарання. Калі мы не навучым нашых людзей асцярожна ставіцца да нашага прыроднага багацця, невядома, да чаго гэта прывядзе. Кожны павінен думаць пра будучыню...

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя заклікае ўсіх грамадзянаў быць ашчаднымі да прыроды і выконваць прыродаахоўнае заканадаўства.

Аб усіх парушэннях вы можаце паведаміць на тэлефон гарачай лініі: 8(02156)2-86-70, мабільныя тэлефоны : 897-23-02, 890-55-28,249-45-349,645-66-78.



■ **А.І. Гігола,**
*начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС.*

## Рэспубліканская акцыя
# «Дом без гвалту»

**У розных краінах свету выпадкі сямейнага гвалту адбываюцца ва ўсіх сацыяльных групах незалежна ад матэрыяльнай забяспечанасці, адукаванасці і грамадскага становішча.**

Наша дзяржава стала першым на постсавецкай прасторы, дзе заканадаўча былі закладзены асновы прафілактыкі пэўных відаў правапарушэнняў, у тым ліку і ў сферы сямейна-бытавых адносін (Закон «Пра асновы дзейнасці па прафілактыцы правапарушэнняў» ад 10 лістапада 2008 года). У адпаведнасці з гэтым дакументам падгвалтам усям'і разумеецца наўмысныя дзеянні фізічнай, псіхалагічнай, сэксуальнай скіраванасці аднаго члена сям'і ў адносінах да іншага члена сям'і, якія парушаюць яго правы, свабоды, законныя інтарэсы, якія прычыняюць яму фізічныя ці псіхічныя пакуты.

Па ўсёй рэспубліцы міліцыя рэгулярна праводзіць комплексныя мерапрыемствы па недапушчэнні асацыяльных паводзін грамадзян у сферы сямейна-бытавых адносін. Асноўныя высілкі сканцэнтраваны на барацьбе з так званымі малазначнымі дзеяннямі: бытавымі бойкамі, збіваннямі, катаваннямі, пагрозамі забойствам ці прычыненнем цялесных пашкоджанняў, якія часта з'яўляюцца «прадвеснікамі» асоба цяжкіх наступстваў.

Статыстыка сведчыць, што прамым каталізатарам бытавой злачыннасці з'яўляецца п'янства, якое наносіць велізарную матэрыяльную і маральную шкоду грамадству, ускладняе дэмаграфічную сітуацыю. У стане алкагольнага ап'янення здзяйсняецца кожнае трэцяе злачынства, у тым ліку каля 70% «бытавых» злачынстваў.

Усё часцей ахвярамі сваіх сваякоў становяцца пажылыя людзі, якія ў сілу ўзросту не могуць аказаць супраціў або змушаныя знаходзіцца ў залежным становішчы.

Для ўцягвання шырокіх пластоў насельніцтва ў аказанне дапамогі і садзейнічанні дзяржаўным органам у рашэнні праблем бытавога гвалту і сямейнага няшчасця па ініцыятыве МУС з 15 па 30 красавіка бягучага года ў рэспубліцы праходзіць акцыя «Дом без гвалту».

У рамках дадзенага мерапрыемства спецыялісты міністэрстваў унутраных спраў, працы і сацыяльнай абароны, жыллёва-камунальнай гаспадаркі, інфармацыі, адукацыі, аховы здароўя, культуры, а таксама розных арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў паінфармуюць грамадзянаў пра прававыя нормы, якія дзейнічаюць у дадзенай сферы; дапамозе, аказваемай ахвярам гвалту; рабоце тэлефонаў даверу і да т.п.

Выказаць свае меркаванне па пытаннях папярэджання, выяўлення і спынення хатняга гвалту, а таксама паведаміць пра вядомыя факты сямейнага няшчасця можна па тэлефонах «гарачай лініі» Глыбоцкага РАУС: 2-27-02; 2-26-82.

# Віншаванкі

*Ганну Леанідаўну Мартыноўскую*

**віншуем з Днём нараджэння!**

Поздравляем тебя, Анна,
И желаем, чтобы ты
Средь весенней суеты
И безбрежного цветенья
Счастлива всегда была,
Чтоб в душе всегда жила
Светлая, как день, мечта,
Чтоб здоровье, красота
И удача, без сомненья,
Принесли тебе везенье!



*Ад калектыву «ВГ»*

*Алінку Самсонаву*

**Віншуем з нагоды Дня народзін!**

Сегодня ты стала взрослее,
Прими пожеланий букет,
Пусть, внучка, судьба тебе дарит,
Гирлянду счастливых лет.
Пусть сыплются звёзды успеха
На путь твой, как снежная мгла,
О близких друзьях, о родителях,
Ты не забывай никогда!

*Ад дзеда Яўгена*

*Ганну Пятроўну Машлевіч*

**Сардэчна віншую з юбілеем!**

Пусть минуют тебя все несчастья,
Горит сердце щедрым огнем,
Я желаю тебе столько счастья,
Сколько солнца летним днем.
И пожелать еще осталось
Людского вечного тепла,
Чтоб все, что хочется, сбывалось,
И жизнь прекрасною была.

*Вера Васільеўна Максімовіч.*

